№ 43 (3784)

4 чэрвеня 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

***Не спазніцеся! Да заканчэння падпіскі на другую палову 2013 года засталося мала часу. Будзем разам!***

ДЫПЛАМАТЫЧНЫ КЛУБ

# Польшча выбрала свабоду, што з'явілася моцным падмуркам сённяшніх поспехаў

*На пытанні «Народнай Волі» адказвае амбасадар Польшчы ў Рэспубліцы Беларусь Лешак ШАРЭПКА.*



**— Якім чынам Польшчы ўдалося (лепш, чым іншым краінам) пераадолець наступствы эканамічнага крызісу?**

— Шмат фактараў паўплывала на тое, што мы лепш, чым іншыя краіны, пераадолелі наступствы апошняга крызісу. Значны ўплыў на наш поспех мелі змены, якія адбыліся ў 1989 годзе, і наша членства ў Еўрасаюзе. Як паказвае час, рашэнне, каб адмовіцца ад неэфектыўнага, цэнтралізаванага кіравання эканомікай і перадаць ініцыятыву грамадзянам, было правільным. Большасць прадпрымальнікаў навучылася будаваць фірмы "пад дзяржаўны заказ". Мы шмат працавалі — як у сельскай гаспадарцы, так і ў прамысловасці. На еўрапейскім рынку з'явіліся новыя польскія брэнды, часта створаныя прыватнымі фірмамі, пабудаваныя польскімі інжынерамі.

У Польшчы былі створаны спрыяльныя ўмовы для малога і сярэдняга бізнесу, які адыгрывае важную ролю ў фарміраванні ВУП і знешнім гандлі, стварае новыя рабочыя месцы. Акрамя таго, была створана вельмі салідная, празрыстая фінансавая сістэма, а ў разгар крызісу нашы банкі аказаліся ўстойлівымі на негатыўныя з'явы.

На прыкладзе Кіпра бачна, што наша банкаўская сістэма бяспечная, а фінансавыя ўстановы — "здаровыя". Міжнародны капітал лічыць Польшчу своеасаблівым аазісам спакою. Змянілася і польская вёска, і наша сельская гаспадарка. Варта прыгадаць, што ў 2012 годзе аб'ём продажу сельскагаспадарчай прадукцыі за мяжу разам склаў 16 млрд еўра і вырас на 15,1% у параўнанні з аналагічным перыядам 2011 года. Польскія прадукты харчавання заваёўваюць Еўропу.

**— Многія беларусы едуць у Польшчу за пакупкамі, таму што цэны на многія тавары ў вас значна ніжэйшыя. З іншага боку, зарплаты ў палякаў намнога большыя, чым у беларусаў. Пры гэтым Расія не прадае Польшчы газ са скідкай, як Беларусі. Чаму тады цэны на тавары ў Польшчы ніжэй, чым у Беларусі?**

— У топліўна-энергетычнай сістэме Польшчы прыродны газ адыгрывае важную, але не асноўную ролю. Гадавое расходаванне газу складае каля 14,4 млрд м3, пры гэтым у краіне яго дабываецца 4,3 млрд м3. Газ імпартуецца з Расіі, аднак аснова нашай энергетыкі — вугаль, які дабываецца ў краіне, каля 90% электраэнергіі вырабляецца на базе вугалю. Вядома, што электраэнергія — гэта толькі адзін з фактараў, якія ўплываюць на канчатковы кошт тавару. Тое, што польскія прадукты маюць добрую якасць і іх можна купіць па даступнай цане, таксама вынік выкарыстання новых тэхналагічных рашэнняў, кваліфікацыі людзей, якія вырабляюць гэтую прадукцыю. Але перш за ўсё гэта вынікае з нашага стратэгічнага рашэння, прынятага ў 1989 годзе, — зрабіць стаўку на заходнюю мадэль развіцця, перайсці да рыначнай эканомікі, перадаць ініцыятыву ў рукі людзей, запрасіць да сябе інвестараў з усяго свету і стварыць для іх адпаведныя ўмовы. Праз 24 гады ад пачатку перамен мы можам ацаніць іх вынікі і прыйсці да высновы: мы можам сабе дазволіць купляць дарагі расійскі газ, плаціць высокія зарплаты і вырабляць тавары па даступнай цане, у тым ліку для нашых беларускіх суседзяў. Усё гэта стала магчымым не дзякуючы дырэктывам зверху альбо створаным дзяржавай планам і ручному кіраванню, а таму, што дзяржава выбрала свабоду, перш за ўсё ў эканоміцы. Мы выкарыстоўваем энергію нашага грамадства.

**— Польска-беларускія адносіны застаюцца напружанымі, многія на Беларусі лічаць, што менавіта з Польшчай афіцыйны Мінск мае сёння найгоршыя адносіны. Чаму так адбываецца?**

— Я не лічу, што менавіта з Варшавай адносіны Мінска найгоршыя. На нашы адносіны трэба глядзець у кантэксце ЕС і суседства. На жаль, адносіны Беларусі з шэрагам краін ва ўсім свеце складваюцца не найлепшым чынам — пра гэта сведчаць шматлікія рэзалюцыі многіх міжнародных арганізацый, у тым ліку ААН. Гэта праўда, што нягледзячы на культурную і гістарычную блізкасць нашых народаў, у апошнія гады паміж нашымі краінамі даходзіла да шматлікіх непаразуменняў на палітычным узроўні. Аднак я хацеў бы выразна падкрэсліць, што падобныя інцыдэнты адбываюцца выключна ў палітычнай сферы, я не чуў, каб звычайныя людзі з Польшчы і Беларусі мелі нейкія праблемы ва ўзаемаадносінах — мы занадта блізкія народы, каб можна было гаварыць пра непаразуменні.

Што да палітыкі, то я думаю, многія сітуацыі сталі вынікам неразумення беларускім бокам намераў Польшчы. Нягледзячы на тое, што гавораць многія з асяроддзя ўлады, нашай мэтай не з'ўляецца ўмяшанне ва ўнутраныя справы незалежнай дзяржавы, мы не збіраемся нікога вучыць. Ад нашага суседа мы чакаем звычайнай адкрытасці для дыялогу, паслядоўнасці ў двухбаковых адносінах і захавання мінімальных стандартаў, якія павінны быць у дзяржаве ў цэнтры Еўропы. Польшча заўсёды добразычліва ставілася да беларусаў і была гатова падтрымаць іх жаданне мадэрнізаваць краіну і захаваць незалежнасць. Сёння толькі ад самой Беларусі залежыць, калі вярнуцца за стол перагавораў як на ўзроўні дзвюх краін, так і ЕС. Пры гэтым, мне здаецца, што абодва гэтыя пытанні непарыўна звязаны паміж сабой, пра што нашы беларускія партнёры не заўсёды памятаюць.

**— Як можна палепшыць сітуацыю з візамі, каб грамадзянам Беларусі прасцей было выехаць у Польшчу і ЕС?**

— Польшча многае робіць для таго, каб наша візавая сістэма спраўна працавала і была даступнай для грамадзян іншых краін. У апошнія гады мы сістэматычна павялічвалі колькасць віз для грамадзян Беларусі: у 2011 годзе іх было 299.536, а ў 2012 годзе — ужо 350.685, што дае павелічэнне на 16%. У гэтым годзе таксама назіраецца павелічэнне колькасці выдадзеных віз. Аднак здаецца, мы дасягнулі пэўнай мяжы, за якую не можам выйсці па прычыне фізічных магчымасцей нашых консулаў.

Мы неаднаразова звярталі ўвагу ўлад Беларусі на неабходнасць павелічэння колькасці польскіх консульскіх работнікаў, аднак да гэтага часу не знайшлі паразумення. Падобным чынам у падвешаным стане знаходзіцца дагавор аб малым прыгранічным руху, які мог бы значна спрасціць для многіх грамадзян Беларусі выезд у Польшчу. Наша краіна завяршыла ўсе працэдуры па гэтай справе. Без адказу застаецца таксама запыт Бруселя, калі Мінск пачне перагаворы па зніжэнні цэн шэнгенскіх віз для грамадзян Рэспублікі Беларусь. Такім чынам, я думаю, што ў значнай ступені пытанні па паляпшэнні візавай сістэмы трэба адрасаваць беларускаму боку — Польшча і Еўрапейскі Саюз неаднаразова выказвалі гатоўнасць пачаць перагаворы па гэтай тэме. Мы чакаем рэакцыі нашых партнёраў.

**— Расійскія вучоныя правялі даследаванне, з якога вынікае, што генетычна палякі і беларусы больш блізкія, чым беларусы і рускія — што аб'ядноўвае нашы народы...**

— Генетыка ўсё яшчэ застаецца чорнай магіяй, таму я не хацеў бы выказвацца на гэты конт. Канечне, нас аб'ядноўваюць блізкія гістарычныя, этнічныя і культурныя сувязі. Гэта пацвярджае лакалізацыя нашых краін, падабенства прыроды і клімату. Блізкія таксама нашы мовы, у якіх можна знайсці шмат аднолькавых альбо падобных па гучанні слоў.

Важнае значэнне для абодвух нашых народаў мае агульная гісторыя — на працягу некалькіх стагоддзяў палякі і беларусы жылі і ўтваралі адзіную дзяржаву. Сёння гэта знаходзіць адлюстраванне ў структуры веравызнання Беларусі: значная частка яе насельніцтва, як і пераважная большасць палякаў, рымска-каталіцкага веравызнання.

Я думаю, што палякаў і беларусаў аб'ядноўвае таксама падабенства менталітэту — мы талерантныя людзі, якія з павагай ставяцца да прадстаўнікоў іншых народаў. Дасканалым пацвярджэннем блізкасці нашых народаў з'яўляецца той факт, што на працягу стагоддзяў паміж намі не было ўзброеных канфліктаў.

Тое, што сучасныя Польшча і Беларусь — асобныя суб'екты на палітычнай арэне, не выключае магчымасці жыць у атмасферы ўзаемаразумення, павагі і талерантнасці. Скажу больш, гэта натуральным чынам прымушае нас да такога суіснавання. Нягледзячы на сучасныя геапалітычныя ўмовы і плыні, кірункі і вынікі сучаснай палітыкі Еўропы, я ўпэўнены, што нам прадвызначана прыязнае суіснаванне.

**— Ці задаволены вы сваёй працай у Беларусі? Вам удалося рэалізаваць усё, што вы запланавалі?**

— Вы прымушаеце мяне падвесці пэўныя вынікі, хоць гэта толькі сярэдзіна тэрміну маёй дыпламатычнай місіі. Да таго ж трэба памятаць, што дыпламат у афіцыйных зносінах прадстаўляе не сябе, а дзяржаву, якая яго дэлегавала, і залежыць ад многіх фактараў, на якія ён не мае ўплыву. Канечне, тое, што ўжо зроблена, не зусім мяне задавальняе. Не сакрэт, што я быў бы значна больш задаволены, калі б нашы консульскія аддзелы выдавалі ў два разы больш віз, у камфортных для кліентаў умовах, альбо калі б візы ўвогуле былі адменены. Думаецца таксама, што нашы адносіны былі б лепшыя, калі б эканамічныя адносіны абедзвюх краін развіваліся без абмежаванняў і дазволілі зарабляць на гэтым як палякам, так і беларусам. Я буду шчаслівы, калі змагу вырашыць справу ўзвядзення новага будынка пасольства, калі можна будзе з усімі палякамі ў Беларусі размаўляць не толькі па-беларуску, але і па-польску, а таксама калі я змагу перад тым, як пакіну краіну, узяць у рукі кнігу па гісторыі Польшчы, напісаную беларускім гісторыкам. Застаецца яшчэ мноства пытанняў, тэрміновае вырашэнне якіх будзе карысным для абедзвюх дзяржаў. Аднак, як я ўжо гаварыў, гэта патрабуе прыняцця адпаведных рашэнняў зацікаўленым бокам — уладамі Беларусі. Пазіцыя Польшчы і Еўрасаюза па гэтых пытаннях адназначная і канкрэтная, адзінае, што нам застаецца, — чакаць адказу нашых партнёраў.

**АД РЭДАКЦЫІ**

*"Народная Воля" ўдзячна Надзвычайнаму і Паўнамоцнаму амбасадару Польшчы ў Беларусі Лешаку Шарэпку за змястоўныя адказы на пытанні газеты.*

*Да ведама чытачоў: калі спадар амбасадар узгадвае падзеі 1989 года, то ён мае на ўвазе першыя пасля распаду сацлагера свабодныя, дэмакратычныя выбары ў Польшчы, дзякуючы якім і пачаліся станоўчыя змены ў палітычным, эканамічным жыцці краіны. Пераарыентацыя на дэмакратычныя шляхі развіцця ўсіх сфер і з'явілася моцным падмуркам сённяшніх поспехаў Польшчы.*

ОТСТАВКА

## Нашли крайнего?

*Вчера Владимир Курнев был отправлен в отставку с поста главного тренера "Динамо-Брест".*

3 июня состоялось собрание правления клуба, на котором наставнику было поставлено на вид "невыполнение задач, предусмотренных контрактом".

После первого круга брестское "Динамо" занимает в турнирной таблице 10-е место, но в двух последних матчах команда Владимира Курнева одержала победы.

Но, как сообщала наша газета, не так давно брестские футболисты организовали акцию протеста в знак несогласия с тем, что им на четыре месяца задержали выплату зарплаты. Игроки на 10 минут задержали начало очередного матча. В это время болельщики скандировали лозунги с требованием отставки председателя Брестского облисполкома Константина Сумара.

Акция прошла без насильственного вмешательства милиции и даже закончилась победой брестского "Динамо". Более того — после матча спортсмены все-таки увидели деньги (пусть и небольшие!) на своих карточках.

Но, как видим, отставки Сумара болельщики так и не дождались. Зато Владимира Курнева благополучно отфутболили...

**Сергей ЗАПОЛЬСКИЙ.**

ТРАГЕДЫЯ

## На Прыпяці ўтапіўся намеснік начальніка Лунінецкай міліцыі

*Лодка, у якой знаходзіліся тры чалавекі, перавярнулася на рацэ ў мінулыя выхадныя.*



Як стала вядома, мужчыны адправіліся зранку лавіць рыбу на лодцы. Па некаторай інфармацыі, падняўся вецер, лодка перавярнулася. Два чалавекі выратаваліся, адзін з рыбакоў утапіўся. Ім аказаўся намеснік начальніка Лунінецкага РАУС па ідэалагічнай рабоце і кадравым забеспячэнні Анатоль Шостак.

У Лунінецкім РАУС карэспандэнту "Народнай Волі" гэтую інфармацыю ўчора пацвердзілі, але неахвотна расказвалі падрабязнасці.

— Начальнік зараз знаходзіцца на месцы здарэння, — распавялі супрацоўнікі міліцыі. — Цела, наколькі вядома, да гэтага часу не знайшлі. Магчыма, знесла цячэннем па Прыпяці. Некалькі сутак ужо шукаюць.

...У Анатоля Шостака засталіся жонка і сын-школьнік.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ЧУЛІ?

## Беларусь наведае Патрыярх Кірыл

Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Кірыл прыедзе ў Мінск 29 ліпеня для ўдзелу ва ўрачыстасцях у гонар 1025-годдзя Хрышчэння Русі, паведаміў журналістам намеснік прэм'ер-міністра Беларусі **Анатоль Тозік.**

*"У Мінску 29 ліпеня пройдзе літургія з удзелам Патрыярха Кірыла і кіраўнікоў памесных праваслаўных цэркваў",* — сказаў віцэ-прэм'ер. Чакаецца, што ва ўрачыстасцях у Мінску возьмуць удзел каля 10 тыс. чалавек. Служба пройдзе пад адкрытым небам у раёне вуліцы Няміга.

Вікарый Мінскай епархіі епіскап Барысаўскі Веніямін удакладніў, што Патрыярх Кірыл прабудзе ў Мінску да 30 ліпеня ўключна.

КАШАЛЁК

## Амаль мільярд долараў

Па даных Нацбанка, за мінулы год беларусы атрымалі рэкордную суму асабістых пераводаў з-за мяжы — 913,1 мільёна долараў. Гэта амаль дзявятая частка ўсіх золатавалютных рэзерваў краіны.

Больш за палову з гэтай сумы — 476,2 мільёна — прыпадае на долю тых, хто з'язджае ў іншыя краіны на сезонныя заробкі. Спецыялісты адзначаюць, што з кожным годам беларусы атрымліваюць з-за мяжы ўсё больш грашовых пераводаў.

НАДВОР'Е

## Дажджы зменяцца пахаладаннем

*На гэтым тыдні ў Беларусі захаваецца цёплае, але дажджлівае надвор'е, паведаміў начальнік службы гідраметэаралагічных прагнозаў Рэспубліканскага гідраметэацэнтра* ***Дзмітрый Рабаў.***

У сераду і ў чацвер месцамі, пераважна па паўднёвым захадзе, магчымы кароткія летнія дажджы, у асобных раёнах з навальніцамі. Тэмпература паветра ноччу плюс 11—17°С, днём 21—27°С.

У пятніцу сітуацыя ў атмасферы пачне змяняцца, і на еўрапейскую тэрыторыю Расіі ўслед за халодным фронтам пачнуць паступаць больш халаднаватыя паветраныя масы з акваторыі Карскага мора. Пад іх уплыў трапяць і паўночна-ўсходнія рэгіёны Беларусі.

У пятніцу і ў выхадныя на большай частцы тэрыторыі чакаюцца кароткачасовыя дажджы, у асобных раёнах навальніцы. Тэмпература паветра ноччу плюс 10—16°С, днём па Брэсцкай і Гомельскай абласцях паветра прагрэецца да плюс 27°С, а па паўночным усходзе Віцебскай і Магілёўскай абласцей чакаецца пахаладанне — у начныя гадзіны плюс 7—9°С, днём 17—19°С.

## Долар падаражэе?

*Нацбанк бачыць магчымыя рызыкі для валютнага рынку*

Намеснік старшыні праўлення Нацыянальнага банка Беларусі Сяргей Калечыц да ліку магчымых рызыкаў адносіць зніжэнне эканамічнай актыўнасці ў Расіі, краінах ЕС і скарачэнне знешняга попыту, сезоннае пагаршэнне цягам года знешняга гандлю. Рызыкі таксама звязаны з магчымым запавольваннем прыцягнення банкамі замежных рэсурсаў і ўзнікненнем дэвальвацыйных чаканняў у насельніцтва ў другой палове года.

Каб не дапусціць падзення рубля, на думку прадстаўніка Нацбанка, неабходна развіваць экспарт і прымаць эканамічныя меры па стрымліванні імпарту, у тым ліку на аснове абмежавання залішняга ўнутранага попыту.

*"Недапушчальным з'яўляецца праца на склад. Гэта не толькі вымывае абаротныя сродкі прадпрыемстваў, але і садзейнічае захаванню высокага прамежкавага імпарту без адпаведнага экспарту",* — падкрэсліў намеснік старшыні праўлення Нацбанка.

Нагадаем, на 1 мая складскія запасы беларускіх прадпрыемстваў былі роўныя амаль 33,4 трлн рублёў і павялічыліся ў параўнанні з пачаткам года больш як на 11 трлн рублёў.

СВАБОДА СЛОВА

## Дунья МІЯТАВІЧ: «Інтэрнэт-СМІ не павінны цярпець пераслед»

Прадстаўніца АБСЕ па пытаннях свабоды СМІ **Дунья Міятавіч** пасля амаль трохгадовага вымушанага перапынку наведала Беларусь з афіцыйным візітам, які пачаўся з адкрыцця семінара для прадстаўнікоў інтэрнэт-СМІ. Дунья Міятавіч яшчэ раз падкрэсліла сваю прынцыповую пазіцыю адносна цэнзуры ў інтэрнэце.

"Свабода ў сетцы інтэрнэт абмяркоўваецца сёння ва ўсіх краінах свету. Інтэрнэт вызначае тое, як мы будзем размаўляць паміж сабой у бліжэйшыя дзесяцігоддзі. Менавіта таму ў гэтай галіне нельга рабіць памылак і няправільных крокаў. Менавіта таму інтэрнэт-СМІ не павінны цярпець пераслед", — сказала Міятавіч.

У працы семінара "Інтэрнэт-СМІ: свабода, прафесіяналізм і ўстойлівае развіццё" ўдзельнічалі прадстаўнікі як незалежных, так і дзяржаўных СМІ.

Дунья Міятавіч сустрэлася з кіраўніцтвам ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" і сябрамі арганізацыі, якія пацярпелі за сваю прафесійную дзейнасць.

Спадарыня Міятавіч патлумачыла, што хацела "з першых вуснаў" пачуць інфармацыю, звязаную з парушэннем правоў журналістаў у Беларусі напярэдадні сваіх перамоў у Адміністрацыі прэзідэнта, Палаце прадстаўнікоў, Вярхоўным судзе, Міністэрстве інфармацыі і з міністрам замежных спраў Беларусі Уладзімірам Макеем.

Дунья Міятавіч высвятляла, як у БАЖ бачаць магчымасці для паляпшэння сітуацыі ў сферы СМІ. Старшыня арганізацыі **Жанна Літвіна** выказала сваё меркаванне: *"Без сур'ёзных змен у заканадаўстве, з практыкай прымянення закона "Аб СМІ" ў нас няма будучыні. Першымі крокамі ў накірунку дэмакратычных пераўтварэнняў мусяць быць тры ўмовы: мараторый на прымяненне артыкула Крымінальнага кодэкса, звязанага з дэфамацыяй, альбо яго адмена, увядзенне заяўнага прынцыпу акрэдытацыі і спыненне практыкі затрымання журналістаў падчас выканання імі прафесійных абавязкаў. Гэта стала б пацвярджэннем намераў рухацца ў бок дэмакратызацыі нашага грамадства".*

**Дар'я СОЛТАН.**

## Абітурыенты выбіраюць рускую мову

*На пачатку 2000-х ЦТ па рускай і беларускай мовах пісала амаль роўная колькасць абітурыентаў. У гэтым годзе жадаючых здаваць ЦТ па беларускай мове амаль у два з паловай разы менш, чым тых, хто будзе пісаць экзаменацыйны тэст па рускай мове.*

У суботу скончылася рэгістрацыя на цэнтралізаванае тэсціраванне. Статыстыка сведчыць, што на ЦТ па беларускай мове зарэгістравалася 33 тысячы 564 чалавекі, па рускай мове — 83.829.

Яшчэ больш сумная карціна з іншымі прадметамі, якія абітурыенты збіраюцца здаваць па-беларуску. Як і летась, у гэтым годзе такіх абітурыентаў адзінкі. Здаваць экзамен на беларускай мове па матэматыцы, фізіцы, хіміі будуць менш за 6% абітурыентаў, па біялогіі — менш за 7%, грамадазнаўства — крыху больш за 2%. І нават тэст па гісторыі Беларусі па-беларуску будуць пісаць менш за 20% абітурыентаў. А яшчэ нядаўна такіх было больш за 60 працэнтаў.

На думку многіх спецыялістаў, змяніць сітуацыю можа толькі ўвядзенне абавязковай здачы ЦТ адразу па дзвюх дзяржаўных мовах. Але наўрад ці гэта можа стаць выратавальным рэцэптам для агульнай сітуацыі з беларускай мовай. Сёння на роднай мове навучаюцца толькі 16% школьнікаў і 11% дашкольнікаў.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА

*Борис ЖЕЛИБА,
доктор экономических
наук, профессор*



# Продать любой ценой за любую цену

Скажем прямо, при всем внешнем спокойствии ситуация в белорусской экономике близка к чрезвычайной. Связано это в первую очередь с резким падением экспорта и, как следствие, с накопившимися сверхнормативными запасами готовой продукции на складах предприятий. Так, экспорт товаров за I квартал сократился против аналогичного периода прошлого года на 2483 млн долларов. Отрицательное сальдо внешней торговли товарами — 564 млн долларов. Тысячи непроданных тракторов рассредоточены где только можно — на территории завода, в окрестностях испытательного центра. Физический экспорт грузовых автомобилей сократился в 2,1 раза. Минеральных продуктов, включая нефтепродукты, продано в I квартале на 881 млн долларов меньше, чем в 2012 году. В январе—марте экспорт калийных удобрений вырос в натуральном выражении на 21,2%, но выручка при этом увеличилась всего на 0,1% из-за падения цен. Мировой калийный рынок выглядит перенасыщенным. Исчезли экспортные перспективы для белорусских телевизоров, мотоциклов, часов и бытовой техники. В текстильном и швейном производстве на складах лежит 181% месячного выпуска, в кожевенной и обувной промышленности — 268%, в производстве транспортных средств и оборудования — 152%.

О критичности положения со сбытом белорусской продукции говорит тот факт, что этим вопросом вплотную занялся сам Александр Лукашенко. Выход нашелся довольно простой: не берет заграница, надо продавать внутри страны. А для этого необходимо стимулировать внутренний спрос. Тем более что нечто подобное мы уже проходили в 2008—2009 годах, когда российский и другие внешние рынки были поражены мировым финансово-экономическим кризисом. Технику рассовывали кому только могли. И в рассрочку, и со скидкой в цене, и по себестоимости. Или просто отгружали и переводили остатки продукции на складах в дебиторскую задолженность. Статистика при этом становилась лучше. Замечу, принято решение, что предприятия Минска, кто сколько сможет, окажут помощь МАЗу и МТЗ в разгрузке их складов. Будет закуплена как строительная, так и коммунальная техника, автобусы. В ход пойдут и лизинговые схемы, и льготные банковские кредиты покупателям.

Правительство срочно отменило государственное регулирование цен на отдельные виды товаров при их экспорте за пределы страны. Такое решение закреплено постановлением Минэкономики №30. В частности, отменены предельно минимальные (индикативные) цены на лесопродукцию, некоторые виды продукции деревообработки, калийные удобрения, потушные свинину и говядину 1-й и 2-й категорий, сухое цельное молоко, пищевую соль, лен и льноволокно, кожевенное сырье и другую продукцию. Индикативные цены устанавливают для того, чтобы в стремлении получить валюту предприятия не вывозили товары за бесценок, даже ниже себестоимости. И чтобы, например, не вывезли весь лес кругляком за границу, оставив на голодном пайке местную деревообработку. Теперь же, как говорится, не до жиру. Продать любой ценой и за любую цену.

С целью стимулирования внутреннего спроса быстрыми темпами растет зарплата населения. За квартал она выросла на 21,2% при увеличении производительности труда лишь на 4,5%. На этот опасный и типично белорусский макроэкономический дисбаланс также уже никто не обращает внимания. Однако пропорционально росту доходов уменьшается и патриотизм наших соотечественников, которые не желают "купляць беларускае". В первом квартале текущего года по сравнению с аналогичным периодом 2012 года импорт продовольственных товаров увеличился на 31,5%, непродовольственных — на 34,9%. В том числе увеличился на 31% импорт пива и на 30,2% импорт крепких спиртных напитков. За четыре месяца доля импортных телевизоров на белорусском рынке возросла на пятую часть и составила 79%. С трети до половины подскочила доля импортных стиральных машин. На полках наших магазинов попрежнему три четверти иностранной парфюмерии и фармацевтических товаров. На 62,2% вырос импорт легковых автомобилей. Завоз их из России увеличился вообще в 2 раза.

Возможно, авральные меры помогут, если не решить всех проблем со сбытом, то хотя бы смягчить их. В недалеком прошлом подобные проблемы с реализацией отечественной продукции отошли в тень по мере того как схлынул мировой кризис. Но уже тогда остро обнажились вопросы конкурентоспособности белорусских товаров, вопросы отсталости нашей технологической базы, необходимости ее масштабной модернизации уже в то время. Сегодня оно упущено. Россия в ВТО. Как и предсказывалось, конкуренция на ее рынке возрастает. Пока в Астане главы государств Таможенного союза решали вопросы создания Евразийского экономического союза, не действовали многие механизмы, заложенные в основу Единого экономического пространства. Свободно передвигаются в Таможенном пространстве лишь две трети номенклатуры товаров стран-участников, только одна треть услуг является свободно реализуемой. Страны-участники союза создают барьеры для свободного доступа на свои рынки товаров друг друга. Это и сельхозтехника, и рыбная продукция, другие товары.

По мнению многих аналитиков, неоднородность экономических моделей интеграции, особенно авторитарная специфика ее белорусского образца, отсутствие Украины, неспособность властей обеспечить неукоснительное выполнение даже собственных обязательств делают перспективы создания Евразийского экономического союза весьма туманными. Практика настоящего времени показывает, что Беларуси приходится выходить из создавшейся сложной экономической ситуации главным образом в одиночку.

БЛІЦ-АПЫТАННЕ

# *Ці трэба заклікаць палітвязняў напісаць прашэнне аб памілаванні?*

*У мінулым нумары "Народнай Волі" мы расказалі пра ініцыятыву бабруйскіх дэмакратаў, якія вырашылі дасылаць лісты свайму земляку — палітзняволенаму Яўгену Васьковічу і прасіць яго напісаць на імя Аляксандра Лукашэнкі прашэнне аб памілаванні.*

*Ініцыятыва, мякка кажучы, выклікала неадназначную рэакцыю.*

**Аляксандр КАЗУЛІН,
экс-кандыдат у прэзідэнты, былы палітвязень:**

— Ведаеце, у сваёй большасці людзі заўсёды слабыя. І калі слабыя просяць моцнага стаць слабейшым, то наўрад ці слушная гэта прапанова. Ёсць прынцыпы і вера, дзеля якіх людзі ішлі на кастры. Думаеце, яны пагодзяцца гэтымі прынцыпамі паступіцца?

**Аляксандр АТРОШЧАНКАЎ,
у 2010 годзе прэс-сакратар кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава, былы палітвязень:**

— Каб адказаць на гэтае пытанне, трэба самому быць палітвязнем.

**Алена КАВАЛЕНКА,
жонка былога палітзняволенага Сяргея Каваленкі:**

— Выбар павінны зрабіць самі палітзняволеныя. Мой муж, напрыклад, напісаў прашэнне дзеля сям'і, малых дзяцей. Іншая справа, што калі чалавек не захоча падпісваць паперы, то яго ніхто і не прымусіць гэта зрабіць. Ніякія ініцыятывы тут не дапамогуць.

**Яўген СКРАБУТАН,
грамадска-палітычны актывіст:**

— У такім выпадку амаль трохгадовыя пакуты "палітычных" губляюць сэнс. І здымаюць адказнасць з улад. Скажуць затым: маўляў, самі вінаватыя, што так доўга ўпіраліся і не хацелі выйсці на волю... Расхлёбваць завараную кашу павінен повар, а не каша.

**Юлія ДАРАШКЕВІЧ,
фотажурналістка:**

— Не думаю, што Мікалай Статкевіч, Мікалай Аўтуховіч ці Зміцер Дашкевіч напішуць прашэнні аб памілаванні. Асабіста я прасіць іх аб гэтым пасаромелася б.

**Віктар ГАРБАЧОЎ,
апазіцыянер у "выгнанні":**

— На мой погляд, кожны з тых, хто зараз знаходзіцца за кратамі, павінен сам асабіста прымаць рашэнне. І мы не маем права іх за гэта асуджаць. Нават хоць адным словам. І прымаць за іх рашэнні не маем права! У гэтых людзей вельмі складаны шлях у жыцці. Не кожны зможа праз такое прайсці. Але першае, што прыходзіць у галаву, калі бачу такія ініцыятывы: ці не ад улады зыходзяць яны? Можа быць, улада чужымі рукамі хоча вырашыць для сябе праблему ўзаемаадносін з Еўропай? А як толькі палітвязні выйдуць на свабоду, у дзяржаўных СМІ пройдзе кампанія — маўляў, усе сваю віну прызналі. Упэўнены, што пра зварот грамадскасці нават ніхто і не ўспомніць. Адным словам, апошняе слова павінна быць толькі за палітзняволенымі.

**Уладзімір АРЛОЎ, пісьменнік:**

— Ніхто за палітвязня не мае права вырашаць гэтую праблему. Я ўпэўнены, што збярыце вы мільёны подпісаў, каб Мікола Статкевіч напісаў прашэнне, але асабіста для яго гэтыя подпісы нічога не будуць значыць.

**Аляксандр МІЛІНКЕВІЧ,
старшыня руху "За свабоду":**

— Я не асуджаю тых, хто ўжо напісаў прашэнні аб памілаванні. У беларускіх турмах людзям вельмі цяжка, умовы там жорсткія. Але лічу, што калі чалавек мае прынцыповую пазіцыю, то ніякія ўгаворы не дапамогуць. Хаця, здараецца, чалавек і адгукаецца, калі да яго звяртаецца грамадскасць. Тады яму маральна лягчэй напісаць прашэнне. Увогуле, як мне падаецца, усе спосабы вызваліць палітвязняў добрыя. Гэта важна і для апошніх, і для іх сем'яў, і для краіны таксама.

**Падрыхтаваў Алесь СВЯТЛАНІЧ.
Апытанне праводзілася з дапамогай сацыяльных сетак.**

КОМПЕТЕНТНОЕ МНЕНИЕ

# «Нужны другие суды и другие судьи...»

*В нескольких номерах "Народной Воли" были опубликованы материалы под названием "Як "няпростых" людзей у Беларусі кідаюць за краты" (см.: №№39—41 от 21, 24 и 28 мая с.г.). В них журналист Дмитрий Галко рассказал, как его "ни за что" задержали, составили протокол якобы за нецензурные выражения, продержали ночь в "обезьяннике", а потом осудили на 10 суток.*

*Редакция попросила дать комментарий по поводу этих материалов известного юриста бывшего судью Конституционного суда Михаила Пастухова.*

**— Михаил Иванович, неужели такое может быть в европейском государстве, каким является Беларусь?**

— Да, поверить в описанные факты трудно, но когда прочитаешь свидетельства жертвы милицейско-судебного произвола, то приходится поверить. Вообще, рассказ Дмитрия Галко потрясает. Он доказывает не только факт "отлова" журналистов, но и дает картинки из "преисподней", а именно: в каких условиях вынуждены находиться люди, попавшие в милицейское "учреждение", а потом — в ЦИП (Центр исправления правонарушителей) на улице Окрестина.

Всем прочитавшим рассказ Дмитрия Галко становится ясно, что в стране проводится целенаправленная расправа с людьми, которые представляют хоть какую-то опасность для нынешней власти.

**— Как можно оценить действия работников правоохранительных органов, которые были использованы в "деле" Дмитрия Галко?**

— На мой взгляд, действия спецназовцев, которые выступали свидетелями на суде и давали противоречивые показания, можно квалифицировать как заведомо ложное показание (ст.401 УК), а начальников, которые послали их на "задание", — как "принуждение свидетеля ... к даче ложных показаний" (ст.404 УК). В данном случае есть также основания для ответственности должностных лиц за фальсификацию доказательств (ст.395 УК), за превышение власти или служебных полномочий (ст.426 УК).

Что касается судьи Евгения Хаткевича, который на основе сфальсифицированных материалов вынес постановление об аресте Д.Галко, то можно поставить вопрос о его ответственности по ст.392 УК "Вынесение заведомо неправосудного приговора, решения или иного судебного акта" (срок наказания — до трех лет лишения свободы, а если действие повлекло тяжкие последствия, то от трех до десяти лет).

Но реалии нашей жизни таковы, что сотрудникам милиции, представителям иных "органов" и судьям фактически дана индульгенция на произвол, если речь идет о преследовании (осуждении) "непростых" людей типа журналиста Дмитрия Галко.

Во всяком случае за последние 10—15 лет я не слышал ни об одном случае привлечения к уголовной ответственности "бэкающих" или "мэкающих" свидетелей-милиционеров, а также судей, осудивших без всяких к тому оснований сотни "непростых" людей.

**— О чем это свидетельствует?**

— Это подтверждает тот факт, что правоохранительные органы и суды служат не закону, а власти. В таких условиях закон утратил свое значение и силу. Он применяется только как средство расправы над оппонентами власти. Как говорил когда-то Бенито Муссолини: для друзей — все, а для врагов — закон.

Правда, при характеристике ситуации, сложившейся в правовой сфере Беларуси, можно вспомнить и слова древнегреческого мыслителя Платона, который предрекал близкую гибель того государства, в котором законы не исполняются, уступая первенство воле правителя.

**— Что в этой ситуации делать людям, попавшим в категорию "врагов"? На что им надеяться, если закон и суды не на их стороне?**

— Надо объединяться и бороться за свои неотчуждаемые (гражданские) права, гарантированные Конституцией и международными актами, ратифицированными Республикой Беларусь, в том числе: право на свободу личности, право на равенство с другими гражданами-"неврагами", право на справедливое правосудие.

На мой взгляд, нынешняя правовая система выродилась, деградировала, прогнила, устарела. Она нуждается в коренной модернизации и обновлении. Для того чтобы правосудие было справедливым, необходим независимый суд, в котором должны работать судьи, служащие закону, а не власти. То есть нужны другие суды и другие судьи.

**— Михаил Иванович, но ведь главная проблема связана с действующей системой власти, которой не нужен "другой суд и другие судьи". Как можно решить эту проблему?**

— По сути, во всех сферах нужны реформы-преобразования, в том числе и в политической сфере. Подлинная законность в Беларуси может быть установлена только при условии восстановления попранной на референдуме 1996 года Конституции Республики Беларусь. Нужно обеспечить действие принципов разделения властей, верховенства закона, уважения и соблюдения прав человека, приоритета норм международного права. Президентская власть должна занять надлежащее ей место в системе органов власти, существенно ограничив свои полномочия. Возможно, нам надо перейти на избрание президента парламентом. Еще лучше и проще, если председатель парламента по должности (ex soficio) будет выполнять основные функции главы государства (подписывать законы, утверждать международные договоры, представлять кого-то на должности, награждать героев и др.).

Конечно, для таких преобразований нужна легальная основа, например, проведение референдума. Если действующая власть откажет народу в его праве высказать свое мнение по важнейшим вопросам государственной жизни, то могут быть использованы другие способы восстановления конституционного положения о том, что единственным источником государственной власти и носителем суверенитета в Республике Беларусь является народ (ст.3 Конституции).

**Алесь СВЕТЛАНИЧ.**

ФОТАРЭПАРТАЖ

# Жыровічы — святы для нас куточак...

*У Жыровіцкі манастыр (на Слонімшчыне) ідуць і едуць паломнікі з розных краін свету — праваслаўныя, грэка-католікі, католікі... Што вабіць іх у мястэчку паблізу Шчары? Дзеля чаго гатовы кінуць яны надзённае і выправіцца ў няблізкі шлях? Кім паклікаюцца вось ужо пяць стагоддзяў, якая ім радасць-асалода ступіць за манастырскія вароты?..*





У пілігрымаў дзве мэты: папершае, выпрасіць заступніцтва ў нашай нябеснай апякункі Найсвяцейшай Багародзіцы ды ўзнесці малітвы падзякі за атрыманыя ласкі і дабрадзействы; па-другое, прыхінуцца вуснамі да цудатворнага абраза Маці Божай Жыровіцкай і вымаліць духоўнай моцы, здароўя сабе і блізкім. Але не аднымі просьбамі-малітвамі высланы шлях да муроў манастырскіх, да алтара з абразом нерукатворнай і цудатворнай... Ікона гэтая, дарэчы, уваходзіць у спіс 100 самых значных праваслаўных ікон на планеце. Сам жа манастырскі комплекс мае гэткае ж значэнне, як і Троіца-Сергіева лаўра для Расіі і Кіева-Пячорская для Украіны. Цяпер людзі, не абавязкова ўцаркоўленыя, імкнуцца да крыніцы святой вады, якая б'е проста на тэрыторыі манастыра. Тая вадзіца чыстая, гаючая, таму на месцы п'юць і да хаты бяруць: акрапляюць ёю ўсё чыста — дамы, аўтамабілі, нават камп'ютары... А яшчэ ў Жыровічах ёсць крыніца — за два кіламетры ад манастырскага комплексу, ва ўрочышчы Вікня. Да 1939 года там знаходзілася капліца, асвячоная ў гонар Успення Божай Маці. Але з прыходам савецкай улады капліца была разбурана. Дык вось на месцы з'яўлення нерукатворнага абраза Багародзіцы (1470 год) і б'юць — роўна з тае пары — цудатворныя крыніцы. Цяпер вада струменіць ў засені дрэў, пад дахоўкай. А літаральна побач — за якія 20 крокаў — яшчэ і купель, дзе можна акунуць усё цела. Тая купель у атачэнні драўлянага зруба, але без даху — каб не адно святая вада, але і неба лашчыла вашу збалелую душу і цела. Не дзіва, што ў Вікню імкнуцца многія — і зімой, і ўвесну, і па восені. Цяпер дык і падаўна. Мясцовыя баялі, што не было выпадку, каб пасля купелі — нават узімку — нехта захварэў. На тое, маўляў, і святая вада, што прыносіць душэўнае і цялеснае збаўленне ад нядужання. Пачуўшы такое, ды яшчэ пад сузіраннем іконы Святой Багародзіцы, — як было не акунуцца ў тую прахалоду?! Канечне, крынічная вадзіца не азёрная і не рачная — халодная, ажно скулы зводзіць і дух займае. Але даю нырца, заплюшчыўшы вочы і сцяўшы зубы. Па праўдзе, дух і напраўду заняло, але толькі на імгненне... Праз хвіліну-другую, як толькі выйшаў з крынічных абдымкаў, па целе расцяклася прыемная цеплыня. І гэтая прыемнасць, лёгкасць, душэўная раўнавага і спакой не пакідалі ўвесь астатак дня. Быццам і не было за плячыма 450 вёрст, яшчэ зранку аднекуль набеглых праблем і клопатаў — усё некуды знікла, нібы ранішні туман...

Па вяртанні дадому і пад уражаннем убачанага, пачутага і прачуленага, усплыло раптам у памяці напісанае Ларысай Геніюш у далёкім 1981 годзе:

*Жыровічы — святы для нас куточак,*
*Дзе цэрквы ў неба вежы узнялі,*
*На дрэве Маці Божай абразочак,*
*Благаславенне для маёй зямлі...*

Не, пакуль святы абраз Божай Маці апякуецца над намі, пакуль святыя жыровіцкія крыніцы струменяць — датуль і будзем вяртацца ў Жыровічы. На тое самае месца, дзе аднойчы ў гушчары дрымучага лесу, у кроне здзічэлай грушы з'явілася Яна — святая заступніца наша...

**Георгій ЧЫГІР.
Фота аўтара.**

# *Аўтамабілі на аўтарынку Беларусі падаражаюць?*

Аляксандр Лукашэнка, Уладзімір Пуцін і Нурсултан Назарбаеў вырашаць лёс аўтарынку Беларусі. На ўзроўні "тройкі" будзе абмяркоўвацца прыняцце ўтылізацыйнага збору ў Расійскай Федэрацыі для аўтамабіляў, якія ўвозяцца з краін Мытнага саюза. Пра гэта заявіў намеснік міністра эканомікі Беларусі **Антон Кудасаў.**

Пасяджэнне "тройкі" адбудзецца на фоне размоў у Расіі аб магчымым распаўсюджванні ўтылізацыйнага збору на аўтамабілі, якія ўвозяцца з тэрыторыі Беларусі і Казахстана. Як адзначаюць эксперты, падобнае новаўвядзенне ў Расіі адаб'ецца і на беларускім рынку. Следам за Расіяй аналагічны закон павінен будзе з'явіцца і ў Беларусі. Антон Кудасаў патлумачыў, што рашэнне аб змяненні дзеяння ўтылізацыйнага збору давядзецца ўзгадняць з Мытным саюзам і АЭП (Адзіная эканамічная прастора).

Дадатковым утылізацыйным зборам будуць абкладацца імпартуемыя ў Беларусь аўтамабілі, у тым ліку і тыя, якія вырабляюцца або збіраюцца ў Расіі. Гэта ў сваю чаргу прывядзе да падаражэння аўтамабіляў для пакупнікоў.

# *800 долараў за суткі...*

*...будзе каштаваць ваш адпачынак у шыкоўным катэджы, калі вы надумаецеся правесці уікэнд пад Мінскам.*

Спыняюцца ў такіх "аграхатках" замежнікі, звычайна багатыя расіяне. Але ёсць і прымітыўныя гатэлі-сядзібы ў правінцыі, дзе кошты вар'іруюцца ад 20 да 40—45 долараў за суткі. На думку старшыні праўлення Беларускага аб'яднання "Адпачынак у вёсцы" **Валерыя Кліцунова,** цэны на аграсядзібы пакуль высокія. Але ж тарыфы на электраэнергію выраслі, і прадукты харчавання таксама даражэюць. Між тым агратурызм — гэта рынак, і калі гаспадары трымаюць цэны, значыць, нехта купляе іх паслугі. Увогуле ў Беларусі зараз зарэгістравана 2057 аграсядзіб: ёсць як міні-гатэлі для багатых, так і сціплыя сядзібы "дзве зоркі", дзе сутачны адпачынак з поўным пансіёнам абыдзецца ўсяго ў 20 долараў. Тут, паводле думкі спадара Кліцунова, нічога звышардынарнага і новага: чым больш прапаноў, тым ніжэйшая цана...

**Георгій ПЛАТОНАЎ.**

ЖАХ!

# *27-гадовая жанчына задушыла нованароджаную дачку*

Жыхарка Брэсцкага раёна падазраецца ў забойстве сваёй нованароджанай дачкі.

Труп немаўляці па месцы жыхарства 27-гадовай жанчыны знайшлі работнікі "хуткай дапамогі", якія прыбылі па яе выкліку. Смерць дзяўчынкі наступіла ад механічнай асфіксіі, паведамляе БелаПАН.

Брэсцкім міжраённым аддзелам Следчага камітэта дзеянні жанчыны кваліфікаваны на падставе п.2 ч.2 арт.139 Крымінальнага кодэкса (забойства заведама малалетняга).

Незамужняя жанчына хавала ад усіх сваю цяжарнасць і 30 мая нарадзіла дома даношаную дзяўчынку. Дзіця на момант нараджэння было жывым.

